## ГАНАРАР

Празаік Сцёпкін атрымаў чарговы ганарар – за раман, які надрукаваў даволі салідны часопіс. Грошай атрымалася поўны «дыпламат». Сцёпкін прынёс дзяржзнакі дадому, стомлена плюхнуўся ў крэсла, выцер насоўкай лоб.

– Фу-у ,– уздыхнуў ён,– ледзь датупаў. Кацюша, зірні, але лепш узважыць: кілаграмаў пятнаццаць, не менш. Во адхапіў, га? У касе, праўда , не лічыў – да раніцы не паспеў бы з маімі матэматычнымі здольнасцямі. Дый навошта? У нас жа не дураць. Пісьменнікаў паважаюць. Ну, на бутэлечку каньяку прэзентаваў, не без таго. Калі ў цябе радасць, то і іншым няхай трошкі весялей будзе.

Жонка была на сёмым небе. Убачыла грошы – у яе спярша адняло мову, яна толькі што і магла ківаць галавой, шчасліва ўсміхацца: нарэшце зажывём! Калі яна бачыла столькі грошай? Мо толькі ў кіно. Ці ў Якубовіча ў «Полі цудаў». А гэта ж – свае. Бяры. Размяркоўвай – куды падзець, якія дзіркі ў сямейным бюджэце зацыраваць.

– Яначка, мой родненькі, разумнічак ты ясненькі! – чмокнула ў шчаку. –Хай табе здароўечка Бог дае. Можаш нават выпіць сёння сто грамаў.

Сцёпкін задаволена крэкнуў.

Жонка перакуліла дыпламат, грошы раскінуліся на часопісным століку. Яна яшчэ пэўны час, нібы зачараваная , дзівілася на іх, а потым падхапіла мужа пад руку:

– Абедаць, абедаць, абедаць! Ты сёння зарабіў!..

Не паспелі Сцёпкіны сесці за стол, як пазваніў сын, перадаў прывітанне ад жонкі і ўнука, а потым, нібы між іншым, пацікавіўся:

– Тата ганарар атрымаў?

Пакольку ў гэтую хвіліну тата налівау у чарку свае законныя сто грамаў, а маці размаўляла па тэлефоне, то яна крадком зірнула на мужа, паўшэптам сказала:

– Атрымаў...

Хутка ўспомніла пра бацькоў дачка. Патэлефанавала. Жывая, значыцца, і здаровая, у сям’і ўсё добра... Пра ганарар таксама пацікавілася. Паабяцала прыехаць – адведаць старых.

Шумна зрабілася неўзабаве ў кватэры Сцёпкіных – дачка, сын, зяць, нявестка і ўнукі заявіліся амаль

адначасова, бы згаварыліся. Былі нават пацалункі, чаго раней – ніколі... Потым усе ўладкаваліся за сталом. Пад гэтую гамонку Сцёпкін прапусціў яшчэ чарачку. Жонка нават праслязілася: «Бедненькія мае, замораныя, як жа вам без таткі нашага?»

Сцёпкін маўчаў. Ён прапусціў яшчэ сто грамаў, на што жонка таксама не зрэагавала, узняўся з месца, папрасіў увагі:

– Грошай я вам падкіну. Але! Спярша скажыце, як называецца мой раман, за які я атрымаў ганарар?

Усталявалася хвіліна маўчання.

– Ну?

–Тата, якая розніца, як называецца? – прытулілася да пляча дачка, пяшчотна пагладзіла апошнія кудзеркі на ягонай галаве. – Галоўнае, ты – талент! Мы ганарымся табой!

Дарослыя запляскалі ў ладкі.

– Дзякуй! – узняў руку Сцёпкін. – Дзякуй. Прыемна пачуць, што вы мною ганарыцеся. Ну, але хто чытаў гэты раман? – Ён нетаропка агледзеў кожнага, хто сядзеў за сталом, і, відаць, пашкадаваў, што вытыркнуўся з такім недарэчным пытаннем: калі нават назвы ніхто не ведае, то дзе ж там пра чытанне заікацца. – Эх, ганарарныя вы дзеці! – Сцёпкін шмаргануў носам.

Ён вылез з-за стала, узяў на століку часопісы з надрукаваным раманам, паторкаў іх у рукі сыну, нявестцы, дачцэ, зяцю...

Адзін часопіс застаўся. Сцёпкін зірнуў на жонку, але, уздыхнуўшы, безнадзейна махнуў рукой і штурнуў яго на канапу.

– Яны прачытаюць, Яначка, прачытаюць, – зашчабятала жонка. – Табе, можа, яшчэ чарачку?

– Чарачка пачакае,– памяркоўна глянуў на жонку Сцёпкін: хай адчуе, што сёння ён можа сам пагаспадарыць за гэтым сталом не горш, як яна. Потым скіраваў вочы ў бок дзяцей. – А вам, шаноўныя, во што скажу: калі прачытаеце раман – прыходзьце. Праз тыдзень не будзе вас – спозніцеся: у мяне пуцёўка ў дом адпачынку.

... Праз тры дні дзеці расказвалі Сцёпкіну змест яго новага рамана.

# УІК-ЭНД З ДЭПУТАТАМ

Мамкін вярнуўся з работы ў прыўзнятым настроі. Ледзь пераступіўшы парог, чмокнуў у шчаку жонку, што тую вельмі здзівіла і ўразіла, бо калі яшчэ такое было, а потым ляпнуў у далоні, бадзёра паведаміў:

– Нінуля, у нас госці! З самой сталіцы. Аднакурснік персанальнай асобай. Ён зараз шышка – уго-о! У самім парламенце сядзіць! Ды ты яго, можа, не раз па тэлевізары бачыла, толькі ўвагі не звяртала. Чалавек з партфелем. Галава-а! Сам прэзідэнт з ім ручкаецца. Прозвішча – Бурчалкін. Гаворыць яно табе аб чым-небудзь?

Жонка, трымаючыся далонькамі за тое месца, куды чмокнуў муж, нясмела крутнула галавой:

– Не-а, першы раз чую.

– Нічога, нічога, праз гадзіну, а мо раней будзеш мець магчымасць пазнаёміцца з ім асабіста. Бурчалкін, цэнячы нашы ранейшыя сяброўскія адносіны, паабяцаў завітаць да нас. На агеньчык, так сказаць. Прыехаў у камандзіроўку і адразу ж мне тэлефануе: Мамкін, прывітанне! Мамкін, як жыццё? Мамкін, якія ў цябе праблемы? І гэтак далей. Абмазгуй, кажа, чым магу табе памагчы – сёння буду, перад ад’ездам ёсць пару гадзін, сустрэнемся. Тут, кажа, цягнуць у рэстараны з усіх бакоў, але я ўсё ж адбіўся: аднакурснік на сяброўскі уік-энд запрасіў, так што ... прабачце, спадары і спадарыні. Мамкін чакае. Га? Ты вось што, Нінуля, пакуль я збегаю ў гастраном, таго-сяго прыхаплю, рыхтуй на стол і думай, чым табе і мне, вядома, можа памагчы Бурчалкін. Глядзі, нічога не ўпусці. Не прамахніся. Ён чалавек слова. Ну, дзе грошы... Давай, давай, для такога сяброўскага уік-энда не шкада патраціцца.

Нінуля, ледзь стрымліваючы хваляванне, мітуслівa дастала з тайнічка грошы, адлічыла неабходную суму, працягнула мужу:

– Глядзі ж там, абавязкова каньяк купі. Самы лепшы. А то, можа, ён гарэлкай грэбуе? Паўлік, і далікатэсаў якіх-небудзь прыхапі. Усё ж – з парламенту... І не баўся. А то раптам заявіцца госць, а я і не ведаю, пра што з ім гаварыць. Яшчэ не тое ляпнеш...

– Куплю ўсё, што трэба! Ды ты не хвалюйся... Чалавек ён свойскі, просты, хоць і чын высокі мае. З ім можаш пра ўсё, што душы пажадаецца, гаварыць. І гавары! Размаўляй! Ну, глядзі тут, я пабег. І думай! Думай, што нам, Мамкіным, трэба яшчэ ў гэтым жыцці? А хочаш, ён нас запраста ў Мінск перацягне? Без партфеля, вядома ж, не пакіне. Не, не такі ён, Бурчалкін, каб лепшых сяброў забываць. Ну, я пабег!

– Шчаслівa,– усміхнулася ўслед Нінуля і пачала збіраць на стол.

... За вуглом дома Мамкіна чакаў Бурчалкін.

– Парадак! – перавёўшы дух, выціснуў з сябе Мамкін.– Разыграна ўсё, як па нотах. Пабеглі ў гастраном. А потым – да мяне. Глядзі, вядзі ж сябе прыстойна... на ўзроўні дэпутата. Пра палітыку больш сып, пра палітыку... Мая Нінуля не вельмі ў ёй. Пра прэзідэнта не плявузгай. Я сказаў, што ты за руку з ім вітаешся. Чуў? Пазняка, Шарэцкага можан мацюкнуць. І абяцай! Залатыя горы і адпачынак на Маямі. Рабі ўсё, як дамаўляліся. Па распрацаваным сцэнарыі. Ну, а заўтра, Бурчалкін, я ў цябе буду госцем са сталіцы. З парламенту.

І дружбакі пашыбавалі ў гастраном.

## КАРАСІ НА ПЯСКУ

Усё пачалося з пісьма ад сына Міхася, які паведамляў, што прыедзе не адзін, а з дзяўчынай, будучай жонкай.

– Трэба сустракаць, – сказаў Матруне Лявон.– Запросім гасцей, сваякоў і суседзяў, каб з Міхасёвай маладзічкай пазнаёміліся, мо і вяселле справім. Рыхтавацца трэба. Паглядзі, колькі ў нас цукру, Матруна. Ці хопіць на гэтае... Ну, сама ведаеш... Гарэлка ў краме надта ж дарагая... Адным словам, будзем рыхтавацца...

Як толькі ў бочцы спынілася булькание, Лявон сказаў сам сабе: «Час».

Назаўтра раніцай, калі вёска яшчэ спала, Матруна на плоскадонцы адвязла Лявона на востраў, а сама вярнулася дахаты. Але ўсё ж сусед Понцік убачыў, што Канапелька павалокся праз агароды да возера з такімі-сякімі прычындаламі. Понцік меў на Лявона зуб, і таму вельмі ўзрадаваўся, падцягнуў штаны і адразу ж пашкандыбаў да ўчастковага, рашуча пагрукаў у акно. Неўзабаве паказаўся заспаны твар міліцыянера Кузоўкі.

– Ну, што здарылася? – праціраючы вочы, спытаў той.

– Ты во спіш, а Лявон на востраве чымергес цісне. Штрапуй! Усіх штрапуеш, а яго што – не бачыш? Ці мо ты праз аднаго штрапу даеш? Глядзі, хоць ты мне і радня, але магу і вышэй заявіць. За Понцікам не заржавее.

Участковы толькі ўздыхнуў. Задаволены Понцік вярнуўся дамоў, злосна пачэсваючы рукі: во,ты, Лявоне, цяпер запяеш мне Лазара. Будзеш ведаць, як лезці са сваёй прасцінай.

Лявон тым часам прыладкаваў апарат, расклаў цяпельца, і неўзабаве ў трохлітровы слоік капнула першая кропля...

Стары не адразу пачуў плёскат вёслаў па вадзе. Насцярожыўся – на бераг насоўвалася міліцэйская фуражка. Напалоханы Лявон адразу кінуў усё і схаваўся ў хмызняку, пачаў назіраць, што ж робіцца каля яго апарата...

– Лявон, выходзь! Твой агрэгат, адразу пазнаў,– пачуў стары голас Кузоўкі. – Не хавайся. Будзем акт складаць. Ад закону не схаваешся.

«Не, смалы... – разважаў Лявон. – Гэтак мяне не возьмеш. Яшчэ невядома, хто каго...»

Кузоўка пахадзіў-пахадзіў вакол апарата, паклікаў яшчэ Лявона, а потым заўважыў, што цяпельца прытухла, перастала капаць у слоік. Як чалавек гаспадарлівы, ён падкінуў дроў, і чымергес зноў пабег танюткім раўчуком.

«Што ён тут выpабляе? Мо зняць пробу?» – участковы падставіў шклянку, і калі нацадзілася грамаў сто, адламаў ад бохана добры кавалак хлеба, выняў жа з Лявонавай торбачкі сала, цыбуліну, зірнуў у той бок, дзе хутчэй за ўсё хаваўся самагоншчык, і зарагатаў:

– Сядзі, Лявон, мне і аднаму добра!

І кульнуў пітво ў рот. Зморшчыўся, першачок што трэба! Хораша закусіў.

– Сядзі, Лявон, мне і аднаму тут падабаецца, – паўтарыў Кузоўка і зноў падставіў шклянку.

Потым – другі раз, трэці...

Калі Лявон ускочыў у лодку ўчастковага, той гучна і прыгожа спяваў: «А я лягу- прылягу...»

Стары дабраўся да берага, пабег у кантору.

– Дзеўкі, тэрмінова пазваніць трэба,– папрасіў ён дазволу, набраў 02 і ажно зароў у трубку: – Алё! Міліцыя? Дакладваю, значыцца, сітуацыю... Участковы Кузоўка... у Борках... на востраве чымергес цісне... Сам бачыў...

Усе, хто быў у канторы, здзіўлена пераглянуліся.

Кузоўка спаў, падклаўшы пад галаву фуражку, калі прыехалі на востраў яго калегі.

... Лявон і былы ўчастковы Кузоўка часта цяпер разам ловяць карасёў. Толькі ніколі не сядзяць побач. І яшчэ: абодва не любяць глядзець на востраў. Лявон – з-за таго, што канфіскавалі ягоны апарат і ўляпілі штраф. А ўчастковы – таму, што пазбавілі міліцэйскага мундзіра.

А карасі скачуць на пяску, бы на патэльні. Ладныя такія карасі. І мужчынам карысны занятак...

## ПРАМАХНУЎСЯ

Цюлькіна хлебам не кармі, а дай куды-небудзь запісацца. Ну, напрыклад, фарміруецца турыстычная група – вядома ж, за кошт прафсаюза або добрага спонсара,– Цюлькін тут як тут.

– Запішыце! Вы запісалі? Дайце глянуць на ўласныя вочы, бо каму і давяраю, то ім, шаноўным,– Цюлькін насоўваў на пераносіцу пукатыя акуляры, падносіў да іх паперку і, знайшоўшы сваё прозвішча, лагодна ўсміхаўся. – Во цяпер бачу. А куды, не падкажаце, заўтра будзе запіс?

Атрымаўшы інфармацыю, Цюлькін з'яўляўся ў патрэбны час якраз у тым кабінеце, дзе і трэба было быць.

– Запішыце! Я – Цюлькін! – пераступіўшы парог, заяўляў ён.

– Ведаем, ведаем, – раздражнёна адказвалі яму.

І запісвалі, бо не запішы – ляманту будзе на ўвесь белы свет. І на дэфіцытныя тавары ( было і такое), і на гуманітарную дапамогу, і на культпаход у тэатр, і яшчэ шмат куды.

У той дзень таксама некуды запісвалі. Куды – Цюлькін не ведаў.

– Запішыце! Я – Цюлькін!

– Што, і вас запісаць? – здзівілася актывістка ў акулярах на прыгожым тварыку.

– Абавязкова, абавязкова!

– Дык вы ж... – дзяўчына папярхнулася, зняла акуляры, чамусьці доўга, не міргаючы, углядалася ў Цюлькіна.

– Ніякіх «вы ж»! Не запішыце – буду скардзіцца! Я – Цюлькін!

– Не магу я вас запісаць...

– Зможаце! Вы, бачу, новенькая?

– Ага.

– Таму запомніце прозвішча.

– Запомніла: Цюлькін.

– Вось-вось!

Дзяўчына ўстала, падышла да Цюлькіна:

– Дык вы ж жывы!

– Так, так, жывы, і пакуль жывы – павінен усюды пабываць, усяго паспытаць і паспрабаваць. Запісвайце,

запісвайце! Не будзем псаваць адносін. Я вам таксама магу спатрэбіцца...

– Я хацела вам сказаць, што я толькі перапісваю на чыставік... – дзяўчына зусім, здаецца, разгубілася пад напорам Цюлькіна. – Спіс склалі без мяне...

Цюлькін хітра ўсміхнуўся, дакрануўся да пляча дзяўчыны, па-змоўніцку зашаптаў:

– А вы, шаноўная, упішыце. Няма такой паперы, каб на ёй не хапіла месца для маёй персоны.

– Ну, як хочаце! Запішу! – не вытрымала дзяўчына і рашуча вывела на паперы прозвішча – Цюлькін.

– Дзякуй, дзякуй, вось і цудоўна, вось і хораша, што з вамі знайшлі агульную мову,– і Цюлькін памахаў на развітанне дзяўчыне.

... Назаўтра быў з’езд творчага саюза, дэлегатам якога з’яўляўся і Цюлькін. Старшынствуючы папрасіў ушанаваць памяць тых, каго не стала за справаздачны перыяд, хвілінай маўчання. Калі ён назваў прозвішча Цюлькіна, а ў спісе яно было апошнім, па зале прайшоўся шумок – дэлегаты заварушыліся, пачалі шукаць вачамі Цюлькіна...

Цюлькін сядзеў і разгублена лыпаў вачамі. Першы раз так прамахнуўся: не туды запісаўся.

## ЭХ, ЖАНЧЫНЫ, ЖАНЧЫНЫ!

Навагодні банкет быў у самым разгары, калі Сыраежкіна, як заўсёды, вытыркнулася наперад. Яна абвяла хітраватым позіркам усіх, хто сядзеў за святочным сталом, і прапанавала:

– Увага, спадары! Ад імя жанчын прапаную кожнаму шчыра прызнацца, хто здрадзіў сваёй жонцы ў адыходзячым годзе.

Мужчыны здзіўлена і разгублена пераглянуліся. Жанчыны заляскалі ў ладкі – падбадзёрвалі сваіх рыцараў, каб тыя выкладвалі ўсё.

– Ну, з каго пачнём? – сакатала Сыраежкіна. – Што, няма смелых?

Такіх спачатку не знаходзілася.

– Мужчыны, нешта вас не чуваць!..

– Ну, Дон Жуаны, чаму сцішыліся?

– Папаліся! – здзекаваліся над моцным полам жонкі.

Першым набраўся смеласці Трушкоў.

– Я, прыкладам, не здраджваў. Спі спакойна і ў новым годзе, Зінуля! – ён прыклаў руку да сэрца і сеў.

Амаль тое ж самае сказалі і ўсе астатнія. Акрамя Вавёркіна. Вавёркін жа ўзняўся з месца з келіхам у руцэ, трохі глынуў шампанскага, сур'ёзна, не міргнуўшы вокам, адчаканіў:

– Што было, тое і было. Хлусіць не буду. Даруй, Галінка. Здраджваў я. Былі ў мяне жанчыны. Адну з іх звалі Ларыскай, другую Наташкай, трэцюю Клаўкай, чацвёртую Верачкай, пятую...

Усе заўсміхаліся.

– Ну і жартаўнік ты, Вавёркін! – прамакаючы насоўкай вільгаць на вачах, перапыніла яго Сыраежкіна. – Так рассмяшыць не кожны!.. Артыст. Табе Дзедам Марозам быць! Галя, ну ў цябе і мужык!.. З ім, відаць, ніколі не сумна!

Вавёркін крыху сумеўся. Ён хацеў працягваць далей, але Сыраежкіну было ўжо не спыніць. Ён сеў на месца. «Во і скажы ім праўду!– абурана падумаў Вавёркін. – Эх, жанчыны, жанчыны! Збрэшаш – паверацьʼ, праўду скажаш – не возьмуць на веру».

## ПРАЕХАЎ!..

«Бачце вы, зайшлі ў аўтобус і каб хоць хны... і едуць безбілетнікамі... зайцамі... нават на кампосцер не глядзяць... А я што – лысы? Толькі і паспяваю цягаць з кішэні талончыкі, толькі і кляцаю кампосцерам, – разважаў Рудзькін, трымаючыся за поручань. – Не, і я лыкам не шыты. Усё. Хопіць. Кропка. Назад з інстытута таксама буду ехаць зайцам. Ці ж у мяне капейчына лішняя?»

Вяртаўся з працы Рудзькін у добрым настроі, ідэя пачаць ездзіць бясплатна ў грамадскім транспарце, што нарадзілася раніцай, сагравала пад апранашкай, і ён раз-пораз кідаў позіркі на тых, хто з'яўляўся ў салоне. Мала хто выцягваў талон на праезд. «Вось-вось, – разважаў Рудзькін,– і заўсёды так... Не, і мы не лапцем борш сярбаем. Глядзіш, тры разы праеду, і бохан хлеба будзе. Ці паўлітэрка малака. А гэта ўжо нешта значыць».

Як і водзіцца ў такім выпадку, на лініі з'явіўся кантралёр.

– Спадары, падрыхтуйце талончыкі для праверкі,– запатрабавала жанчына ў чырвоным берэціку, акінуўшы важным позіркам салон.

«Буду трымацца да апошняга,– цвёрда рашыў Рудзькін і дастаў на ўсялякі выпадак талон, заціснуў у кулаку. – Калі што – кампосцер побач, паспею кляцнуць... Жанчына ж далёка яшчэ...»

Заставалася ехаць няпоўных тры прыпынкі. Далекавата. Рудзькін адчуў, што ўзмакрэла лысіна, цяжэй зрабілася дыхаць, а пальцы на руцэ трымцяць. Ён не зводзіў вачэй з жанчыны-кантралёра, чырвоны берэцік якой быў усё бліжэй і бліжэй. Рудзькін бачыў, як хлопцы ўюнамі праслізгвалі паміж пасажыраў, хаваючыся ад кантралёра, умудрыліся праскочыць, а большасць паказвалі праязныя білеты...

«Усё, паспеў!»–з палёгкай уздыхнуў Рудзькін і саскочыў на асфальт, ён аддыхаўся, выцер насоўкай узмакрэлую лысіну. Талон усё яшчэ быў заціснуты ў кулаку. Рудзькін пакамечыў яго і звыкла шпурнуў у скрыню са смеццем...

## ІМПАРТНЫЯ ЧАРАВІКІ

Лыжкіны абедалі, калі дзынкнуў званок.

– Васіль, пацікаўся, хто там, – падштурхнула мужа кабета.

– Зараз, – хуценка адрэагаваў і на званок, і на жаночы загад Васіль і зірнуў у вочка: па акулярах і па капялюшы пазнаў таварыша па рабоце Сіўчыка і адразу ўспомніў, што той павінен быў, як і дамаўляліся, прынесці яму імпартныя чаравікі. Хваліўся Сіўчык, што дужа модны, прывабны абутак, але трохі малаваты – цісне, таму, хочаш таго ці не, даводзіцца вось збываць. Шкада, але што паробіш – не дзівіцца ж на чаравікі, іх насіць трэба, а, бач, не атрымліваецца. «Ды і прадаваць абы-каму не хочацца,– гаварыў Сіўчык. – Гэта во каб хто з сяброў узяў, то іншая справа: доўга ўспамінаць мяне потым будуць добрым словам, а чужы адразу забудзе». Прымерыць імпартны абутак першым згадзіўся Лыжкін.

І вось Сіўчык стаіць з каробкай перад дзвярамі. Заходзіць, вітаецца.

– Танюша, – кліча Лыжкін жонку. – Паглядзі, што мой калега па брыгадзе прынёс – імпартныя чаравікі. Я ж і забыўся табе сказаць. Яму малыя, ну, а як яны будуць на маёй назе? – Неўзабаве Лыжкін тупаў па кватэры ў навюткіх чаравіках. – Самы раз. Як на мяне пашыты. Ну дык што, Танюша, возьмем?

– Канечне, любы, – Танюша павярцела ў руках чаравікі, задаволена прычмокнула языком. – Прыгожанькія – слоў няма. Ды і носкія, відаць, будуць, раз імпартныя... Цана таксама не вельмі каб кусалася. Бяры, бяры, Васілёк, і не задумвайся. А таварышу свайму дзякуй скажы.

– Так, так... Вось я, карыстаючыся момантам, адразу і кажу: дзякуй табе, дружа, за чаравікі,– Лыжкін паляпаў Сіўчыка па плячы.

– Ды няма за што,– прамырмытаў Сіўчык. – Не для каго ж пастараўся – для друга.

Запіхнуўшы ў кішэні грошы, Сіўчык пажадаў доўга насіць чаравікі, развітаўся і знік.

– Праўда ж, добрыя чаравікі? – зноў зірнуў на жонку шчаслівы Лыжкін, шырока ўсіхнуўся... і раптам усмешка вокамгненна прапала з ягонага твару. Перад ім

стаяла зусім іншая жонка – твар насуплены, чырвоны, бы памідор. І позірк вачэй такі, быццам Лыжкін прынёс у дзень зарплаты ўсяго некалькі «зайцаў».

– Значыць, абутак купляеш? –затрэсла галавой Танюша. – І гэта ў той час, калі ў халадзільніку вецер гуляе... калі ў мяне панчохі ўсе дзіравыя... калі...

– Не разумею... – павёў плечуком Лыжкін. – Ты ж сама сказала: бяры, і не раздумвай, чаравікі вельмі добрыя... і цана не кусаецца.

– А што я пры чужым чалавеку павінна была гаварыць? Скажы мне, пень? Не магла ж я адправіць яго за парог са сваімі чаравікамі. Што б ён тады пра мяне падумаў? Ды і пра цябе, га? Эх, бядота ты, Лыжкін, а не мужчына. Навошта макацёр на плячах носіш?

Назаўтра Лыжкін панёс чаравікі быломy аднакласніку Птушкіну, бо яму яны вельмі... ціснулі.

## ПАВІНШАВАЎ!

Крыху не пашанцавала капітану Бярозкіну: уначы падраздзяленне, якім ён камандуе, было паднята па трывозе, потым – марш, раён вучэнняў, якія абяцалі зацягнуцца не на адны суткі. Іншы б раз Бярозкін не хваляваўся – ці ж упершыню яму калець разам з салдатамі на тых вучэннях? Хваляваўся ж з аднае прычыны – вось-вось павінна жонка нарадзіць першынца. А тут – трывога, і яна засталася сам-насам са сваімі клопатамі. Суседзі, праўда, памеліся панаглядаць за жонкай, выклікаць, калі спатрэбіцца, «хуткую дапамогу». Гэта трошкі суцяшала, супакойвала афіцэра. А яшчэ камбат прыкамандзіраваў часова да кватэры капітана Бярозкіна радавога Самардака, які толькі што выпісаўся са шпіталя і набіраўся моцы ў казарме. У абавязкі Самардака ўваходзіла: сходзіць, калі будзе патрэба, у краму па прадукты для жонкі камандзіра, вынесці смецце, прапаласосіць, пацікавіцца, патрэбна яшчэ ў чым дапамога ці не. Самардак – салдат паслухмяны, працавіты, дамавіты, і такая служба – прынесці-падаць – яму вельмі спадабалася. А паколькі раней ён жыў на Украіне, то аднаго разу нават прыгатаваў смачны наварысты борш і пачаставаў ім жонку капітана Бярозкіна.

Неўзабаве ў Бярозкіна нарадзіўся сын. Пад акном радзільні радавы Самардак доўга таптаўся з кветкамі, якіх наскуб на клумбе ў гарадку, павіншаваў парадзіху, а потым тая – з акна трэцяга паверха – прадыктавала яму змест тэлеграмы, якую павінен быў Самардак адправіць у Н-скі гарадок капітану Бярозкіну.

Капітан Бярозкін атрымаў тэлеграму наступнага зместу: «Мілы каханы віншую цябе сынам абдымаю цалую радавы Самардак».

# ВЯРНІЦЕ БАРАБОЛЬКУ!

Што люблю, дык гэта тэатр. Скажаце, таксама тэатрал знайшоўся ў Беражках! На карце спярша пакажы, дзе жывеш, а потым пахваляйся. Яно праўда: нашы Беражкі не на кожнай карце адшукаеш, але ж адно аднаму не псуе – тэатр жа ў нас ёсць, свой, самадзейны, яму яшчэ да народнага клыпаць ды клыпаць, праўда, але, бывае, такі спектакль мужыкі ды бабы адчыбучаць, што і ў самім Мінску каму-небудзь ікнецца. Таму ж мо Раеўскаму. Таленты, адным словам, не звяліся, тэатралы – таксама, на «Марыях» не ўсе памяшаліся. Так што калі будзеце ў нашых Беражках ці паблізу дзе – заходзьце на спектакль. Не пашкадуеце. Адзін толькі нюансік: закончыў сваю тэатральную кар’еру трактарыст Мішка Барабалька, артыст характарны, хахмач яшчэ той, але не бяда – і астатнія, так сказаць, нешта ўмеюць, хоць да Мішкі ім і далекавата. Нездарма ж яму – у знак удзячнасці за вернае служэнне мясцовай сцэне і з лёгкага слоўца самога Барабалькі! – надалі землякі ганаровае званне «заслужаны артыст Беражкоў!» Ён першы пакуль і адзіны пры такім высокім чыне. І, трэба сказаць, атрымаў заслужана. Як гэта ён умудрыўся, пытаеце? А-а, і вам цікава. Таму раскажу.

Спектакль называўся «Сватаўся жаніх да нявесты». У галоўнай ролі, як вы і здагадаліся, Мішка Барабалька. Роля тым складаная, што маладога хлопца павінен быў іграць Барабалька, якому – каб не памыліцца – гадкоў пад пяцьдзесят. Але ж Мішка ўсё можа, любую ролю агорае, тым больш жаніха – сам ён гэтую школу ў сваім насычаным жыцці прайшоў з адзнакай: тры разы кляўся ў вернасці і вечным каханні жанчынам. Вопыт ёсць. Майстэрства – не пазычаць: артыст Мішка, як я ўжо сказаў, ад Бога. Праўда, да гэтага спектакля яшчэ не заслужаны, але... ці доўга там заставалася?

Спектакль пачаўся, як і чакалася, пры перапоўненай зале. Сабраўся люд не толькі з Беражкоў – з усіх навакольных вёсак прыкандыбаў стары і малы. Месцаў не ўсім хапіла, але з нагоды такой падзеі можна і пастаяць. Ды і не паны – ад зямлі тэатралы, свае. Мясцовае начальства крыху прыпазнілася, але яму, як і ў

сапраўдным тэатры, прыбераглі шостую лаўку спераду, а каб астатнія бачылі, для каго прызначаецца яна, заслалі абрусамі, таму і дурню зразумела: не займаць! Дзед Міхей на ўсялякі выпадак папярэджваў кожнага, хто касіў вачыма на прыгожыя абрусы:

– Ета, панове, не пад вашы штонікі пакладзена. Замурзаеце. Размяшчайцеся, размяшчайцеся, дзе хто можа. А другім разам і свой табурэцік не грэх прыхапіць – для пэўнасці: цопнешся ці не на дзяржаўную лаўку, а на сваё – факт, сядзеш. Майце на ўвазе. Спектакль смешны, пра нас з вамі, - я быў запрошаны на генеральную рэпетыцыю,– таму маецца быць заўсягды, як сказаў сам Мішка Барабалька, аншлаг. Размяшчайцеся. Сядайце. Ну, стойце, стойце... Хто рана ўстае, таму і Бог дае. Так-так, вось і старшыня прыйшоў. Пачынай, Мішка, спектаклю! Можна!

Спярша зайграла музыка, потым рассунулася заслона, і на сцэне ўсе ўбачылі даярку Верку Цыганку і маладую бухгалтарку Волечку.

– Апраніся, сваты прыедуць, а ты – як лахудра! – строга сказала Волечцы Верка Цыганка.

Бухгалтарка змоўчала, але паслухалася – пачала ўпрыгожвацца перад люстэркам.

– На тое і спектакль, – шапнуў дзед Міхей сваёй Лёксе,– каб стрэльнуць па чалавеку, як з ружжа, што на сцяне вісіць... Мішка казаў... Тут, бачыш, нейкая задрыпаная даярка Верка Цыганка можа лахудрай ці іншым абы-якім словам абазваць бухгалтарку, чалавека з дыпломам. Тэатр – гэта табе, Лёкса..

– Глядзі! – варсанула ў бок старому жонка.

Пакуль бухгалтарка Волечка прыхарошвалася, у дзверы пастукалі. Заходзяць сваты. Наперадзе шнуруе вясковы каваль Сідаронак, крыху адстала ад яго арандатарка Маруся Бахцікава, а там ужо пасыпаліся – з-за сватоў не адразу і жаніха ўбачыш. Відаць, па ролі так. Мішка апошні заходзіць, крыху саромеецца, вочы то на падлогу скіруе, то на столь талопіць.

– Бач, колькі іх на дурніцу прыпёрлася выпіць,– шапнуў Лёксе дзед Міхей.–Толькі нас яшчэ там і няма...

– Добрым людзям наш добры паклон! – сказаў каваль Сідаронак, і ўсе, як па камандзе, схілілі галовы.

– Праходзьце, людцы добрыя! – зрабіла шырокі жэст рукой Верка Цыганка.

–У сваю хату яна б так дудкі запрасіла,– хехекнуў дзед Міхей. – Што значыць тэатр!.. На ходу чалавека іншым робіць. Га?

Лёкса не адказала.

– Дык, гаворань, у вас дзеўка занявесцілася,– каваль Сідаронак памкнуўся паставіць кошык, з якога вялікай грушай выпіраўся корак ад глячка, на стол, але Верка Цыганка трошкі, пэўна, разгубілася, а мо і словы раптам забылася, атрымалася паўза, і ён не ведаў, прымуць іх у гэтай хаце ці не, таму ставіць кошык не асмельваўся.

– Ды стаў, стаў кош на стол, – падказаў дзед Міхей. –Прымуць, прымуць, куды яны дзенуцца. Гэтай бухгалтарцы і ўсамдзелі замуж пара. Ёй бы толькі жаніха маладзейшага. Але ж Мішка – артыст. Ён любую зацугляе.

Пакуль тое ды сёе, дзея ў спектаклі разгортвалася, Мішка Барабулька сарваў нават першыя апладысменты: ён ашчаперыў бухгалтарку Волечку і смачна пацалаваў.

– Лідка, ты глянь, глянь! – крутнуўся на лаўцы дзед Міхей. – Пад гэтую марку і нацалуецца Мішка. Няўжо і ў цэксці ёсць цалаванне? Не можа быць... Ды і на генеральнай рэпетыцыі на гэтым месцы не цалаваліся. Я б запомніў... Не-не, гэта Іішка сам прыдумаў. На тое артыст!

Лідка запунсавелася, махнула рукой:

– Абы далей не пайшло!..

– Пры такім цемпі можа і пайсці,– зарагатаў дзед Міхей.

– Глядзі! – зноў варсанула старога ў бок Лёкса.

Стол на сцэне быў накрыты шыкоўна – нават бульбачка дымілася, а ў цэнтры стаяў глячок з гарэлкай, паабапал яго пляшкі з такім жа, відаць, пітвом. Сваты, жаніх, нявеста і Верка Цыганка п’юць, ядуць і гамоняць.

– Няўжо ваду жлукцяць ці канпот які? – спытаў у Лёксы дзед Міхей.

– Ты ж усё ведаеш, навошта ў мяне пытаешся? – адмахнулася Лёкса.

– Не, ты заўваж, заўваж: Мішка сам сабе налівае і, ліха яго матары, з адной і той жа бутэлькі,– засвяціўся маршчыністы – леташняй бульбінкай – тварык дзеда Міхея. – На рэпетыцыі з глячка цадзіў. Во, во, шосты раз

прыкладваецца. Там недзе ў дне кропля мо якая засталася. Хіба ж вады ён столькі мог выпіць? Яе столькі не адужаеш. Пляшка, няйначай, літровая. Анціхрыст, навідавоку ў старшыні п’е гарэліцу... не, каб і яму прапанаваць-паднесці. Мішка не дасці. Скнара. Сам дабулькае. Закусвай, закусвай, Мішка, а то разбярэ, халера!..

– Ну, дык ты пойдзеш за мяне замуж? – нарэшце Мішка Барабулька выпрастаўся, абапёрся рукамі аб краёк стала. – Я да цябе звяртаюся, Вольга: пойдзеш ці не?

– Пайду, – крыху разгублена мовіла бухгалтарка Волечка.

– Усе чулі? – чамусьці паглядзеў не на сватоў, а ў залу Мішка Барабулька. – Усе. Лідка, а ты чула?

Лідка, старшыня, дзед Міхей і ўсе астатнія пачалі здзіўлена пераглядацца паміж сабой, паціскалі плячыма: нічога не разумелі, ды і чаму ён назваў артыстку-бухгалтарку Вольгай, калі яшчэ раней яна была Наташкай – як у п’есе.

– Казаў жа: закусвай! – першым змікіціў, што адбылося, дзед Міхей. – Неслух!

Мішка Барабулька, хістаючыся, паклыпаў на авансцэну:

– Лідка, ты чула? Я жанюся! На вучонай! Людзі, спектакль спектаклем, мы яго працягнем... без антракту дадзім, не хвалюйцеся, але ж я жанюся па-сапраўднаму, і вы засвідзецельствуйце гэта. Га?

– Я... я нічога такога вам не абяцала! – паружавела бухгалтарка, цыўнула вачамі. – Я ж думала... гэта ж па п’есе! – і яна, затуліўшы тварык далонямі, схавалася за кулісамі.

Нехта запляскаў у далоні, і ўсе – дзіва! – падтрымалі яго. Акрамя старшыні. Той узняўся, папрасіў, каб супакоіліся.

– Рэжысёра! – з годнасцю запатрабаваў старшыня.

– Я! – белы, як свежы снег, выбег на сцэну рэжысёр аграном Цыбулькін.

– Замяніць жаніха! Дублёр, ці як у вас там, ёсць?

– Не, няма, – заплюскаў вачамі рэжысёр аграном Цыбулькін.

– Як гэта мяне замяніць? – паківаў непаслухмяным пальцам Мішка. – Мяне? Можна сказаць, заслужанага...

замяніць? А вы тэатр Янкі Купалы ўяўляеце без Станюты або Аўсяннікава? Не. Правільна. А вось знойдзецца які-небудзь дурань і скажа: замяніць! Старшыня, ты тута не распараджайся. Ты ў мастацтве – нуль. Без палачкі. Запомні. Кіруй пасяўной. Зразумела? А будзеш несці лухту, то я магу табе багата пра што напомніць. Магу расказаць вось усім гледачам, верным нашым патрыётам, заядлым нашым тэатралам, які ты ў горадзе маёнтак пабудаваў з васемнаццаці пакояў. За чые грошы? Га, маўчыш? Праглынуў? А сынам машыны пакупляў – за што? А мяса бярэш кожны дзень свежанькае, калі я, можна сказаць, заслужаны артыст Беражкоў, саланіну хрумстаю, ад чаго на сцэне іншы раз толькі салёным потам прэ... А выбары ўзяць. За Дубко не галасаваў...

– Замяніце яго! – старшыня прытупнуў нагой, выпяў грудзі.

Дзед Міхей паглядзеў на старшыню, усміхнуўся:

– Не, Мішку не заменіш. Ён адзін у нас такі. Артыст!

Першай сіганула з залы Лідка, за ёй, унурыўшы галаву ў плечы, пашоргаў старшыня.

– Спектакль працягваецца! – гукнуў Мішка Барабалька.

Але паплыла заслона, яна адгарадзіла яго ад гледачоў... І на ўсё, мусіць, астатняе жыццё. Толькі ён не вельмі, бачыцца мне, бядуе: усё ж стаў заслужаным артыстам Беражкоў пасля таго спектакля. А гэтага, браткі, не кожны можа дамагчыся. Трэба талент мець.

На спектаклях Мішка Барабалька сядзіць цяпер побач з дзедам Міхеем. Той, бывае, засумуе на прадстаўленні і шапне заслужанаму артысту:

– Скокні, Мішка, на сцэну, адмачы што... Бо жыццё такое, што пасмяяцца хочацца. Скокні, Мішка. Удружы.

А Мішка адмахваецца, як і Лёкса некалі:

– Глядзі!..

Збіраемся на днях, скажу вам па сакрэту, пайсці дэлегацыяй папрасіць старшыню, каб дазволіў усё ж Мішку выйсці на сцэну, бо ў нашых Беражках любяць тэатр. А які ж гэта тэатр – ну, праўда! – без заслужанага артыста?

Так і скажам старшыні: «Заслужаных паважаць трэба! Вярніце Барабальку!»

## ПАДФАРЦІЛА

Пашчасціла нарэшце інжынеру Ціханчыку: цяжка ўспомніць, колькі ён ужо гуляе ў гэтае «Спортлато», а толькі нядаўна адхапіў кругленькую суму. Жонка, Капіталіна, з выпадку такой радаснай падзеі абвіла, бы ў маладыя гады, мужа вакол шыі, соладка чмокнула ў шчаку:

– Не зломак ты ў мяне, Ціханчык! Хай усе бачаць! Я ж, хоць і перцу падсыпала табе, калі ты купляў тыя карткі, але сама недзе ў глыбіні душы верыла: падфарціць калі-небудзь і нам, не ўсё ж – ім! Малайчына! Твае грошы – ты імі і распараджайся! У нас заўсёды, не мне табе казаць, справядлівасць была і застаецца на першым плане. Рашай, на што патраціш грошы. Бачу, задумаўся. Дарэмна. Тады я скажу: апрануць цябе трэба, Ціханчык. Абнасіўся ты зусім. Абшарпаўся. На людзі паказвацца сорамна. Купім, значыць, табе новае паліто, плашч, джэмпер і абавязкова андатравую шапку. Усё ж ты пры пасадзе, не апошні чалавек у сваім канструктарскім бюро. Ты на мяне не глядзі, Ціханчык. У мяне ўсё ёсць, здаецца...

Пайшлі купляць. Ціханчык прыхапіў самую пузатую сумку, запіхнуў у кішэню некалькі цэлафанавых пакетаў.

Людзей у краме – не падступіцца. Штурхаюцца, абражаюць адзін аднаго, дзе там з Ціханчыкавым характарам падабрацца да тавару, каб хоць вокам глянуць, што ён з сябе ўяўляе, за колькі прадаецца. Не раўня яму Капіталіна: бы той вужэлак, прадзіраецца праз любую чаргу, а потым паведамляе мужу:

– Плашч – залюбуешся! Чысты кабардзін! Браць?

– Што, якраз мой памер?

– Твайго не бачу... Ах, дык гэта ж жаночы плашч! Але прыгожы. Вачэй не адарваць.

Неўзабаве Капіталіна вылазіць з новай пакупкай, аддае мужу: трымай! А сама зноў ныряе ў чаргу. Не праходзіць і хвіліны, як чуваць яе шчаслівы голас:

– А шапкі, Ціханчык, ні пяром апісаць, ні ў казцы расказаць.

– Андатравыя?

– Гм, захацеў так адразу! З лебядзінага пуху. Каб узяць?

– Бяры, калі андатравых няма, – паціскае плячыма Ціханчык.

– Ціханчык, га, Ціханчык, падыдзі бліжэй, паглядзі, якое шыкоўнае паліто, – кліча Капіталіна мужа. – Возьмем? Пазней днём з агнём не знойдзеш. Ды і ўлічваць трэба – гіперінфляцыя. Каўнер, не, ты глянь, з чаго каўнер! Натуральны пясец.

– Гэта ж жаночае,– міргае вачамі Ціханчык.

– На цябе, даражэнькі, пашукаем яшчэ. Знойдзем. Павінны знайсці.

... З крамы Ціханчык нёс, ажно гнуўся, абновы для жонкі. Капіталіна забягала наперад, стараючыся зазірнуць яму ў вочы:

– Гэта ж трэба так гандляваць! – шчабятала яна. – Невукі! Як грошай няма – для мужчын рэчы выкідваюць, а калі ёсць – толькі жаночыя. Ніякага парадку ў гэтым гандлі.

Ціханчык, выціраючы насоўкай узмакрэлую лысіну, чыкільгаў за жонкай і думаў, што ён вельмі шчаслівы чалавек: няхай яшчэ хто выйграе для сваёй любай жонкі столькі трантаў!

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Госці прабраліся за сталы. Сядзяць. Чакаюць. Маўчаць.

– Ну, дзе там наша імянінніца, шаноўная, паважаная Клавачка? – устаў Павел Сцяпанавіч, штатны тамада, абвёў прыдзірлівым позіркам стол, які быў густа застаўлены закускай і бутэлькамі з ліманадам і мінералкай, развёў рукамі. – Нешта… кхы-кхе-кхе… нічога не бачу…

А Клавачка трымала ў руках дзве бутэлькі гарэлкі – па адной у кожнай.

– Што ж, пачынайце, госці мае, застолле, – пявучым голасам падала каманду Клавачка. – Ліманад на стале. Мінералка. Налівайце. Ну, а хто хоча гарэлкі выпіць за маё здароўе, пажадаць мне такога горкага, як і яна, жыцця, прашу ўзняць рукі. Ну, смялей, смялей, госцейкі дарагія!

Госці сядзелі моўчкі, баючыся варухнуцца. Нават тамада. Ён толькі разінуў ад пачутага рот.

– А я і ведала, што вы ўсе жадаеце мне толькі салодкага жыцця! Дзякуй вам, даражэнькія мае! – на Клаўчыным твары запалілася ўсмешка, і неўзабаве яна гарцанула на кухню з дзвюма бутэлькаімі гарэлкі.

Той-сёй цяжка ўздыхнуў, нехта запляскаў у далоні, а тамада сядзеў усё яшчэ з разяўленым ротам…

## ПРЫЗ

Сцёпчыха заўсёды лютавала, калі размова заходзіла пра Шурку – прывабную адзінокую жанчыну са шматлікімі пярсцёнкамі на пухленькіх пальцах і арыгінальным залатым ланцужком на шыі. Гэтыя жоўценькія вырабы і псавалі ёй, Сцёпчысе, настрой.

– Бач, бач, ідзе як! Х-хы! Каза-а! – амаль штодня праводзіла яна Шурку, крыўляючыся. – Зноў, зноў сёння новую сукенку апранула. І пярсцёнкі новыя начапіла-а! Пачакай, пачакай, напорашся – адарвуць з пальцамі. А што ёй! Выгуляецца на рабоце – і круць-верць азадкам. Каб быў мужык, то пакруціла б. А то што ні дзень новыя транты, з іголкі. Канечне, палюбоўнікі стараюцца. Вунь, вунь іншамарка падкаціла прама да пад’езда. І паехала, і паехала... Цьфу!

Сцёпчыха, правёўшы з балкона сваю маладую суседку на працу, пачынала гатаваць ежу, тапталася на кухні і думала, як ёй насаліць. «Пад носам капіталізм расцвіў!»– не магла супакоіцца яна. А як ушчыпнуць Шурку – не магла даўмецца. Але галава працавала. Актыўна. Напружана. Таму, як толькі Шурка вярнулася з працы на той жа іншамарцы, Сцёпчыха адразу кінулася да тэлефона і набрала «04»:

– Свішча газ! Чакаю! Іначай дом узляціць пад аблокі! Будзе, як там!..

Яна назвала Шуркін адрас і шырокая ўсмешка расплылася па твары: а заўтра «хуткую дапамогу» выклічу, потым аб’явы на слупах расклею, што Шурка быццам прадае халадзільнік... Не будзе ў яе спакойнага жыцця!

Аварыйная брыгада прыбыла даволі хутка. На званок у дзверы выглянула Шурка, а Сцёпчыха прыадчыніла свае і навастрыла вуха.

– Вось вам наш прыз – тэлевізар! – сказаў вусаты дзядзька і паказаў на свайго калегу, які трымаў прыз. – Не здзіўляйцеся, не здзіўляйцеся – вы наш юбілейны, стотысячны, кліент.

Ад пачутага Сцёпчыха страціла прытомнасць і выкацілася на лесвічную пляцоўку...

## ГУЛЬНЯ

– Ну, тата, пачалі, – гаворыць сын і робіць першы ход канём. – Толькі папярэджваю: будзеш хітраваць – не здабраваць…

Тата робіць ход у адказ: е-2 на е-4. І так далей: ход – сын, ход – тата. Нарэшце апошні падымае рукі ўгору, кісла моршчыцца – здаецца.

– Матэматыка за табой, – па-даросламу спакойна разважае сын. – Калі і наступную партыю прайграеш, заданне па мове выканаеш. Ідзе?

– Ідзе, – неахвотна пагаджаецца тата і займае пасля двух кароткіх зацяжак месца за сталом.

Ход – сын, ход – тата. Апошні нервуе: скрабе патылі-цу, круціцца на табурэтцы, раз-пораз выслізвае на кухню – курнуць.

– Прапаноўваю нічыю, – глядзіць тата на сына. – Згодны?

– Не, татачка, ні за што,– стаіць на сваім сын. – Як гэта – нічыю? Настаўніца ж адразу раскусіць. Ды і сам дзе ты бачыў, каб адно і тое ж заданне ў сшытку пісалася рознымі почыркамі? Не пойдзе так. Тут канкрэтна давай: ты ці я. Думай, думай, тата, можа яшчэ і выйграеш,– падбадзёрвае сын.

Праз два хады тата здаўся. Ён папрасіў секунданта – маму, каб падала ручнік. Выцер узмакрэлы твар, адпіў са шклянкі чаю.

– Так, што ў нас яшчэ засталося?

Сын глядзіць у дзённнік.

– Маляванне. Бурацiна выходзіць з хаты, накіроў-ваецца ў школу з азбукай – тэма малюнка.

– Не, не, – пратэстуе тата, апантана махае рукамі. – Я – пас! Я – пас! Матэматыку, пісьмо яшчэ зраблю, а вось па маляванню – ні ў зуб нагой. Алоўка ў руках не трымаў. Ты, Ігарок, маму, маму… з ёй згуляй…

– Яна ж секундант, – паглядзеў сын у бок мамы.

– Я, я пабуду!

– Мама! – кліча сын. –Тата па маляванню – аловак незавостраны. Сядай.

Мама перадала павязку секунданта тату, садзіцца за шахматную дошку.

Пачатак зроблены. Сямейная гульня працягваецца…

## ЯК КІНУЦЬ КУРЫЦЬ

У альтанцы мужыкі забівалі «казла». Савоська прычыкільгаў да іх, павітаўся і радасна паведаміў:

– Усё, мужыкі, нарэшце здзейснілася!

– Ты пра што, Савоська? – вытыркнуўся з гурту сусед Віцькін, бо не зразумеў, падобна на тое, што там у яго «нарэшце здзейснілася».

– Кінуў курыць! – з тым жа пафасам сказаў Савоська.

– Кінуць-та яно можна, а вось як не курыць? – пачуўся зноў голас суседа Віцькіна. – Я таксама толькі што кінуў... Насмуголіўся – і кінуў. Га?

– А я даўно кінуў,– з гонарам прызнаўся Савоська. – І, самае галоўнае, не цягне. Ні кропелькі. Вось вы курыце. Так? Так. А мне хоць бы хны. Мне здаецца, што вы атруту глытаеце. Бр-р-р! Агідна, аж на ваніты цягне.

– Дык ты што, у вуха ўкалоўся?

– Цікава! Навучы, Савоська, і нас, як ад атруты гэтай пазбавіцца?

Савоська памуляўся для прыліку, потым, калі ўсталявалася цішыня, пачаў:

– Канешне, дзе-небудзь на дзікім Захадзе мне б за мой метад адвалілі зялёненькімі, і нямала...

– Во, во, і ён, як усе,– толькі б абадраць мужыка, бы ліпку,– сказаў нехта незадаволена.

– Але, але, спадары! Я разумею, дзе мы жывём і як, таму дарэмна не хвалюйцеся – метад аддаю бясплатна.

Сёй-той паапладыраваў. А сусед Віцькін сказаў:

– Ды хіба вы Савоську не ведаеце? Ён сваё аддасць. Апошняе. Задарам. Абы іншым было добра. Давай, давай, расказвай!

– Запамінайце. Раніцай, як толькі прачнуліся, не думайце пра цыгарку. Думайце пра нешта сонечнае, светлае, пяшчотнае... Уявіце мора... Лепш – Чорнае... і хвалі, хвалі нагортваюцца на бераг, лашчацца да вашых ног... А вам курыць хочацца. Правільна?

– Яшчэ як!

– А вы: не... не... не... Я не дурань, каб на мора ехаць за такія грошы і курыць... Апошні сказ паўтарыце некалькі разоў... Усё, ад першай цыгаркі вы пазбавіліся.

Вам хочацца выкурыць другую. На гэты раз уявіце лес... Лета... Сухмень... І ўсюды шыльдачкі, якія напамінаюць, што той, хто прыйшоў у лес з запалкамі і цыгаркамі, будзе аштрафаваны, незалежна ад таго, карыстаўся ён імі ці не. Шапчыце: у мяне забралі мільён, мільён, мільён... Штраф, штраф, штраф... І другой цыгаркі вы не крануліся, вам проста перахацелася.

– Яшчэ як перахацелася!

– Здорава ты прыдумаў, Савоська!

– Галава-а!

– Вось метад гэта дык метад! Мне ўжо, можна сказаць, курыць не хочацца,– абрадаваўся сусед Віцькін. – Ну, ну, давай далей апавядай, Савоська! Цікава-а!

– Пасля таго, як вы прапусцілі дзве цыгаркі, вам рупіць вывудзіць з пачкі трэцюю. Так?

Тут Савоська ўбачыў сваю кабету. Тая прадзіралася паміж мужыкоў, расштурхоўваючы іх, бы снапы, і працягнула ў бок Савоські гаспадарчую сумку.

– Хопіць анекдоты расказваць! Імі сыты не будзеш! Трымай сумку і бяжы ў гастраном – па харч. Ды глядзі ж мне: калі зноў залямзіш сабе на курава – іх, цыгарэты свае, і есці будзеш. Як на тым тыдні. Помніш? Ці, можа, забыўся? Пры такой дарагавізне на ўсё ён яшчэ і курыць уздумаў! Глядзі мне: кішэні выверну, так што не рызыкуй!

Савоська стаяў, бы ў халодную ваду апушчаны. Мужыкі спярша знерухомелі, а калі да іх дайшло,– грымнуў рогат.

Аказваецца, курыць і сапраўды вельмі проста кінуць – трэба мець толькі такую жонку, як у Савоські.

## ЯГОРКА АБ’ЯГОРЫЎ

Прыязджаю ў родную вёску. На лаўцы перад вокнамі сваёй хаты сядзіць цётка Дуня. Павіталіся. Хацеў было ісці далей, але яна, схамянуўшыся, сказала:

– Пачакай, Васіль. Гэта ж я памру скора, то і расказаць не паспею табе пра свайго Ягорку. Помніш яго, халеру? Гэта трэці мой мужык быў... Тыя першыя чарку любілі, а Ягорка – яшчэ больш. Але ж і галаву разумную меў, не галавешку, хоць і п’яніца.

Аднаго разу мяне так аб’ягорыў, што і людзям саромелася расказаць. Табе раскажу. А то на той свет панясу. Гэта ж самагон схаваю – знойдзе! Увесь агарод пераштыкуе-пералапаціць, сена163 перагрусіць... І наліжацца. А тут шукае, шукае, а знайсці не можа. Тады што робіць, паразіт? Налівае ў трохлітровы слоік вады – якраз столькі, колькі і самагонкі ў ім запрыкмеціў. На стол паставіў. Хлеба адрэзаў. Сала кусель ладны паклаў. Агурок. І ў акно глядзіць, калі з крамы я вяртацца буду. Пераступаю парог, а ён ляжыць на ложку і храпе, як п’яны. Глянула я на стол – і абамлела, рукамі адно ўспляснула: «А божа! Каб жа цябе, паразіт, мухі пакусалі! Каб жа ты спрах! У карчы схавала – і там знайшоў! Цьфу!» Хуценька за слоік са стала, і перахавала «самагон». Не, каб паспытаць, што ў ім было, і на агародзе корпаюся спакойна сабе. А ён карчы параскідаў, яны ж перад самым парогам ляжалі, знайшоў самагон і амаль увесь выжлукціў. Ну, і не абармот жа Ягорка, зямелька яму пухам, чорту...

Во, хоць прычына была сёння памянуць яго...

## ПАДАЙЦЕ МНЕ ЯКАЎЛЕВА!

Маргарыта Сямёнаўна корпалася на кухні ля пліты, а Рыгор Паўлавіч, яе муж, праглядваў у зале на канапе свежыя газеты. Ён нешта мумкаў сабе пад нос, а калі да яго далятала аўтаматнай чаргой новая жменя колкіх і гарачых, бы вугельчыкі, жончыных слоў, адкідваў галаву, глыбока і гаротка ўздыхаў, злёгку стагнаў і прыкладваў да лба насоўку.

– І колькі будзе гэтая дружба працягвацца? – на гэты раз Маргарыта Сямёнаўна вынырнула з кухні, вытарачыла вочы на мужа. – Адкажы мне! Што дае табе гэтая нікому не патрэбная дружба? Ніяк зразумець не магу. Адны непрыемнасці – і толькі...

– Хопіць табе, – стараўся супакоіць жонку Рыгор Паўлавіч. – Чалавек як чалавек Якаўлеў, тым жа паветрам дыхае, што і мы.

– Ах, так! Ты, значыць, за яго! – зусім, здаецца, выходзіла з сябе жонка. – Гляньце толькі, людзі, каго я ў доме трымаю! Чужога чалавека! Іншароднае цела! Не, вы толькі паглядзіце, паглядзіце!..

– Паехала, – скрывіўся Рыгор Паўлавіч і адгарадзіўся ад жонкі газетай, але Маргарыта Сямёнаўна так ірванула яе, што муж ад нечаканасці выпусціў акуляры, якія трымаў разам з газетай у руцэ, і шкельцы слязінкамі рассыпаліся па падлозе...

– Што, непрыемна слухаць? Але ты слухай, слухай, дарагі, можа, хоць нейкая карысць будзе. Кропля вады і тая камень точыць. Пытаюся: калі пакладзеш ты канец гэтай дружбе? Ты мужчына ці баба ў штанах? У цябе сумленне, гонар у рэшце рэшт ёсць?

– Ёсць, ёсць і сумленне, і гонар, – працягваў адбівацца Рыгор Паўлавіч.

– Ёсць, кажаш? Нешта я не бачу. Учора, значыць, сустракаю таго Якаўлева. На вуліцы , дзе ж яшчэ! Цёмна ўжо, усе нармальныя людзі «Марыю» глядзяць, гарбату п'юць ля экрана, а ён, як бяздомны, брындае. Напарніка шукае – такога ж, як сам...

– Ну-ну... і што далей?

– Вось і ну, вось і ну... Толькі пра сябе думаеш. Каб жывот натрамбаваць,на канапе паляжаць... Паразіт!

– Заладзіла: Якаўлеў, Якаўлеў... – паморшчыўся Рыгор Паўлавіч. – Не чапай ты яго, хай жыве спакойна. Ну, прыклаў аднойчы руку... не стрымаўся. Мужык жа. З кім не бывае? Ды і не цябе ж ён у рэшце рэшт крануў...

– Хм, яшчэ не хапала, каб мяне! – Маргарыта Сямёнаўна прыняла ваяўнічы выгляд і, здавалася, была гатова хоць зараз даць адпор любому супастату. – Я яму, іраду, ураз галаву адкруціла б! Ты паглядзі на яго толькі, га! Усё толькі і робіць, каб людзям нашкодзіць, нервы папсаваць. Адна ў яго думка, адна...

На кухні нешта засквірчэла, забулькала, і ўжо адтуль даносіўся энергічны, звонкі, поўны злосці і лютасці голас Маргарыты Сямёнаўны:

– Я гэта так не пакіну! Калі муж цюхця цюхцяй, то сама пастаю за гонар сям'і! Сама! Я пакажу гэтаму Якаўлеву, дзе ракі зімуюць! Папомніць! Што ж рабіць застаецца, калі мужчыны ў доме няма?

... Ранічкай наступнага дня Маргарыта Сямёнаўна прывяла чатырохгадовага сынулю Юрачку ў дзіцячы садзік і запатрабавала: «Падайце мне сюды Якаўлева!»

# ПЕВЕНЬ

Прыгарадны дызель-поезд мерна адстукваў коламі, спыняўся амаль што праз кожныя пяць хвілін – высаджваў і падбіраў людзей, а потым, злёгку паднацяўшыся, набіраў хуткасць. Пасажыраў у кожным вагоне было – што селядцоў у бочцы: не кожнаму падфарціла зручна стаяць.

Звычайны ў такім выпадку малюнак: адны кімарацъ, другія ўперылі вочы ў дэтэктыў ці ў газету, трэція ж, каму пашчасціла на месца, паныла кідаюць позіркі на краявіды за акном. І раптам: «Ку-ка-рэ-ку-у!» Вагон грымнуў ад смеху. Певень унёс такое ажыўленне, што і пераказаць цяжка. Потым «ку-ка-рэ-ку-у!» паўтарылася. Смех быў ужо не такі дружны, як хвіліну ці дзве раней, але ўсё ж быў... Быццам артыст, адказваючы на апладысменты ўдзячных гледачоў, певень працягваў пацяшаць людзей, пакуль тыя не насыціліся яго спевамі. А пазней і певень замоўк, і людзі прыціхлі. Зноў – дэтэктывы, газеты, абыякавыя позіркі за акно, на суседа. Дык вось жа цікава: ну, а каб певень загарлапаніў недзе на вясковай вуліцы? Спявай сабе, ніхто і брывом не павядзе. На гарадской жа – цікава, адкуль ён тут? У вагоне – таксама цікава. Усяму, кажуць, сваё месца. Так і з гэтым пеўнем атрымалася.

Можа б, я і не пісаў бы пра гэта, але ж дужа цікавым падаўся дзядок, што вёз крыкуна ў кошыку. Вясковы дзядок. Ён падсеў недзе пасярод дарогі, і праехаў усяго два прыпынкі.

– Гэта асаблівы певень, – зіркаў падслепавата стары па баках. – Яму цаны няма. Такім пеўням помнікі пры жыцці ставіць трэба, а мая баба – ды ну яе! – забі і забі. Бач ты, што надумалася зрабіць. Не, пеця, цябе я ў крыўду не дам. Ты мяне выручыў, і я цябе не пакрыўджу. Радзіма сваіх герояў помніць. А гэта ж, браткі, перабраў я надоечы, галава развальваецца па частках, а баба дулю замест апахмелкі дае. Ведаю, што ёсцека. Злы, вочы б мае яе на той час не бачылі. Я да яе і так, і сяк, а яна заўпарцілася – хоць ты ёй што рабі. Паміраю, можна сказаць, а не разумее. Дзе ж бабе мужыка зразумець? Ну! І медалі, што на фронце зарабіў чэсным пуцём, не ў залік. Сяджу на лаўцы, бядую. А тут, бачу, певень у гародчыку

корпаецца... Зацікавіўся я, назіраю... І – верыцэ? – паказалася вечка... Я яшчэ больш зацікавіўся. «Давай, давай, пеця, ці не той скарб, які і для мяне інтарэс мае?»– падбадзёрваю. Так! Ён, трохлітровы слоік! Дзівосы! Ад радасці я ўзняцца з лаўкі не магу – хаду адняло. Падбягаю, дапамагаю пеўню... ён мне, як разумная істота, саступае: калі ласка, далей сам капай. І стаіць, цікуе за мной. Выцягваю. Фу-у-у! Вось тут я, дзякуючы пеўню, і паправіў і без таго гіблае сваё здароўе. Так што, гэты певень – герой. А баба: забі, у чыгунок яму пара. Гэта каму? Пеўню гэтаму? А смалы ты не ела, старая? Нізашто. Пакуль сам жывы – і пеўня не дам ў крыўду. Вось і ратую яго, бедалагу. Да дружка свайго вязу, няхай у яго пажыве... далей ад варожага вока... А жонцы скажу: дык адкуль жа ведаю, куды ён, пеця, падзеўся? Не бачыў, скажу. А Сцяпан у крыўду не дасць. Ён мяне зразумее. Прадоўжым жыццё пеўню. А то, бач ты яе, у чыгунок... Багата чаго вы хочаце-прагнеце ад нас, бабы? Скажы, пеця?

Пеўня ж, пакуль і не выйшаў дзядок, не было чуваць: спаў. Як усё роўна ведаў, што няма чаго хвалявацца, мужчыны выручаць, як некалі і ён іх...

## АЛЕРГІЯ

У алергічнае аддзяленне звярнуўся хворы – мужчына сярэдніх гадоў, крышачку атлусцелы твар у чырвоных плямах, быццам яго хто фарбай размаляваў.

– Задыхаюся, доктар, – паскардзіўся ён.

– Гэта я бачу. Як і бачу, што ў вас алергія. Цікава, ад чаго яна магла паявіцца?

– Сам не ведаю. Гарэлку не п'ю. Піва таксама. Што вы, што вы! І блізка не падношу... Адэкалонам не карыстаюся. Сусед вунь, Таранкін, ад яго задыхаўся. Кветкі не нюхаю. А што ем? Ды што цяпер мы ядзім, вядомая справа: бульба і сала. Раней у мяне – вы адзначце, таварыш доктар – ніколі яе, халера, не было, алергіі гэтай. Спярша думаў, на жонку яна... Дык не – кабету адпусціў на курорт, а хвароба гэтая яшчэ больш прагрэсіраваць пачала.

– А калі жонка на курорт паехала, вы чым займаліся? – асцярожна пацікавіўся ўрач.

– Ды не, налева не хадзіў, – адразу чамусьці пачаў апраўдвацца хворы.

Доктар усміхнуўся.

– Мяне гэта, дарэчы, не датычыць. Чым вы займаліся, што елі, пілі, дзе былі...

– Га-га, – з палёгкай уздыхнуў хворы, – адкажу, адкажу. Так, значыць. Пра ежу я сказаў, а піў квас, гарбату і тэлевізар глядзеў. І ўсё, здаецца? Ну, там на работу збегаю – справа вядомая: грошы ж трэба зарабляць.

– Дык, кажаце, як жонка паехала на курорт, адразу хвароба пачала прагрэсіраваць?

– Ісцінная праўда!

– А вы «Санту-Барбару», «Проста Марыю», «Дзікую ружу» глядзелі разам з жонкай?

– Не, гэта выключна яе фільмы. Я толькі футбол калі, навіны... І яшчэ там розныя іншыя перадачы паважаю, якія ідуць у перапынку паміж рэкламай.

– Што ж, дыягназ вядомы: у вас алергія на рэкламу. Гэтая хвароба не толькі да вас прыляпілася – яна распаўзаецца ў апошні час яшчэ хутчэй, чым вірус грыпу. Бачыце, як жонка паехала на курорт, вы пачалі больш сядзець перад тэлевізарам...

– Гэта так, гэта правільна, – згодна заківаў хворы.

– Адсюль і хвароба пачала прагрэсіраваць.

– Вось у чым справа, аказваецца! – павесялеў хворы. – А я ўжо чаго толькі не перадумаў! Во дзякуй вам, доктар, за дыягназ. Дык есці, кажаце, можна ўсё? І нюхаць?

– Усё рабіце, што і раней рабілі: ешце, нюхайце, кахайцеся, а вось ад прагляду тэлеперадач пакуль устрымайцеся. Цалкам. А потым паціху ўключайце, а як толькі на экране з'явіцца рэклама – уцякайце падалей ад яго! Запомніце: рэклама – вораг вашаму здароўю! Майце на ўвазе. Так што шпіталізаваць вас няма патрэбы.

– Яно ж і праўда, доктар, цярпець я не магу рэкламу, – шчасліва ўсміхаўся хворы. – А яна, гадаўка, і давяла. Ледзьве не да магілы. Але нічога, я ад яе цяпер вылечуся хутка – учора, калі рэклама мо цэлыя паўгадзіны была, дык я не вытрымаў і гвазданyў шклянкай па экране. Так што няма тэлевізара. Пакуль на новы цяпер збяру-у-у! Баюся толькі , што ў жонкі можа з'явіцца алергія, калі даведаецца, што сталася з тэлевізарам. На мяне. Ну, дык я пайду? Лячыцца!

Доктар паціснуў бедалазе руку і пажадаў хутчэйшай папраўкі.

## ЗАБАСТОЎКА

Хмыкін, прытупаўшы познім вечарам дахаты, плюхнуўся ў крэсла, выцер насоўкай твар і мовіў урачыста-стомленым голасам да жонкі, якая выглянула з кухні з перакінутым цераз плячо ручнікам:

– Бастуем, Маша!

– Ды ведаю, ведаю, – без асаблівай радасці чамусьці зрэагавала жонка, што крыху насцярожыла Хмыкіна. – Сёння, даражэнькі, будзеш усухамятку есці – пакуль пехам датэпала з работы, дык гатаваць няма ні сіл, ні часу. І заўтра, кажаш, вашы тралейбуснікі не выедуць на маршруты?

– І заўтра, і заўтра, Маша! Баставаць дык баставаць! «Наш паравоз вперёд летит...» Уяўляеш, калі даб'емся свайго – больш за нейкіх там міністраў атрымліваць будзем, га?! Гульня вартая свечак.

– І ты зноў, канешне, у сваёй дыспетчарскай увесь дзень кіснуць будзеш? – падазрона глянула на Хмыкіна жонка. – І на дачы – усё прападае. Так?

– Памідоры, кабачкі – потым, Маша. Гэта на закусь. А пакуль на першым плане – справы дзяржаўнай важнасці, можна сказаць. Бастуем! А штаб павінен працаваць. Я абраны ў штаб забастоўкі.

– Сядзі ў штабе, клопат такі! Але заўтра трэба мне на гадзіну раней устаць, каб на работу не спазніцца. Так што сняданкам цябе накарміць не магу. Варыце самі ў сваім штабе крупнік.

– Дык як-небудзь... – пазяхнуў Хмыкін. – Пераб'ёмся. Ахвяруем, так сказаць, сняданкам дзеля будучага...

Раптам патухла святло.

– Што яшчэ за жартачкі? – незадаволена хмыкнуў Хмыкін.

Святла не было мо з паўгадзіны – і не толькі ў Хмыкіных, - не свяціліся вокны ва ўсіх дамах мікраараёна. І Хмыкін не вытрымаў, запаліў свечку, паднёс да тэлефона, каб пазваніць дзяжурным электрыкам і падсыпаць перцу, але апарат маўчаў.

– Ды каб вам тлумна зрабілася! – вылаяўся Хмыкін і патупаў да суседа Цёмкіна.

Цёмкін адчыніў на стук дзверы, паднёс запалку да твару Хмыкіна, буркнуў:

– А, гэта ты, забастоўшчык!

– Я. Пазваніць дай. Футбол пачынаецца, а яны там нешта доўга чухаюцца, электрыкі.

– Не працуе тэлефон. Усе, відаць, бастуюць. Як і ты. Заўтра і радыё слухаць не будзм. Зяць мой сказаў. Таксама збіраюцца баставаць. А няго ж! Два дыпломы мае, мазгі паўжыцця сушыў, не тое што ты, невук, а зарабляе ўсяго восемсот тысяч рублёў, хоць і галоўным рэдактарам працуе. Парадачкі, га-а! Каму і баставаць, дык такім неталентам, як мой зяць. Усё ў цябе?

– Ага, – ацаніўшы сітуацыю, Хмыкін задумліва пашкроб за вухам. – Спаць пайду, раз такое дзела.

Назаўтра Хмыкін таксама вярнуўся позна. Жонка была ў ложку.

– Пасунься, – загадаў ён.

– Сёння нельга, – колкім голасам адказала жонка. – Наша «Ліга жанчын» таксама аб'явіла забастоўку. Хопіць пехам хадзіць і без «Трапіканкі» сядзець.

– Дык каб вам!.. – вылаяўся Хмыкін і пацёгся да лежака ў зале.

## КАМПРАМІС

Рабочы Хапун украў на заводзе нейкую рэч. У апошні час ён нярэдка так робіць – валачэ ўсё, што прывабіць вока, і, па яго меркаваннях, цягне на добрую капейчыну. Потым у суботу і нядзелю сядзіць на аўтарынку – гандлюе. Аднойчы нешта нават прадаў самому начальніку цэха. Той зрабіў выгляд, што не пазнаў Хапуна.

Як і заўсёды, Хапун данёс тую рэч да паркана, перакінуў на другі бок, яна гэхнула так, быццам упаў з неба метэарыт, а тады пералез і сам.

– Вось і папаўся! – шчасліва глядзеў на Хапуна міліцыянер і ўсміхаўся, яго ж напарнік трымаў рукі напярэймы – каб не даў лататы злодзей. – Што ж, пайшлі ў аддзел. Бяры сваю рэч і тупай за намі.

– Цяпер нясіце вы, – спакойна сказаў Хапун. – Я сваё пранёс.

Міліцыянеры пераглянуліся, і малодшы сяржант кіўнуў радавому:

– Нясі, Мамонька.

Мамонька абхапіў тую рэч рукамі, нібы абцугі цвік, але і з месца не скрануў. Бездапаможна глянуў на малодшага сяржанта. Той зразумеў яго з паўслова: яны абхапілі рэч удваіх, але таксама не маглі падняць.

– Дык што, не панясеш? – зноў паглядзеў на Хапуна сяржант.

– Не панясу. Я сваё пранёс. Вам трэба – нясіце.

Міліцыянеры пераглянуліся.

– Добра, – сказаў малодшы сяржант, – давай пойдзем на кампраміс. Ты нясі сваю рэч, куды і нёс, а мы пойдзем, куды ішлі. Згодны?

– А як жа! – усміхнуўся Хапун, падхапіў адной рукой тую рэч і пакандыбаў дадому.

Бібліятэка “Вожыка” №2

З выгляду Васіль Ткачоў надзвычай сур’ёзны і займаецца вельмі сур’ёзнымі справамі – піша п’есы і аднаначасова кіруе Гомельскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. У свае няпоўныя пяцьдзесят Васіль шмат пакалясіў па белым свеце, пабачыў столькі крутых сюжэтаў і характараў, колькі і не снілася дамаседам Шэкспіру і Астроўскаму. І раптам у пераходным этапе ад развітага сацыялізму да неразвітага капіталізму гэты суровы на выгляд чалавек рассмяяўся. І ёсць з чаго. Пачытайце ягоную кніжку – пераканаецеся і, безумоўна, самі ўсміхнецеся.

Вожык.

Месца выхаду: Мінск
Дата выхаду: 1997
Мастацкае афармленне Алега Папова
Рэдактар Валянцін Болтач
Бібліятэка часопіса “Вожык”
Мазырская узбуйненая друкарня
Памеры: 31 с.